не хапала ў літаратуры. Гэтыя намеры былі сфармуляваны ў прадмове да кнігі. Таксама можна меркаваць, што аўтар меў мэту абудзіць у чытача сум па старой Рэчы Паспалітай, важнай часткай якой было Вялікае Княства Літоўскае. Зварот да крыніц, можа не такіх ужо актуальных, але поўных захопленых водгукаў пра прыродныя багацці краіны, яе гаспадарчы патэнцыял, азначаў, што аўтар хацеў абудзіць патрыятычныя пачуцці ў суайчыннікаў. Неаднаразова вобраз ВКЛ меў характар гіпербалізаваны, ідэалізаваны, нагадваючы залаты час Рэчы Паспалітай двух народаў. Неаднаразова, каб пацвердзіць свой тэзіс аб унікальнасці з'яў, апісаных у кнізе, ён звяртаўся да постацей уладароў, з часоў якіх Вялікае Княства Літоўскае поруч з Каронай Польскай будавала супольную дзяржаву.

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС

[1] Ładowski R. Historia naturalna królestwa Polskiego czyli zbiór krótki przez alfabet ułożony, zwierząt, roślin i minerałów znajdujących się w Polszcze, Litwie i prowincjach odpadłych. Zebrana z pisarzów godnych wiary, rękopismów i świadków oczywistych… Kraków, 1783. S. 4.
[2] Ibid. S. 101.
[3] Гл.: Arabas I. Losy kolekcji księżnej Anny Jabłonowskiej na podstawie dokumentów z archiwum Rosyjskiej Akademii Nauk w St. Petersburgu // Kwartalnik Historii Nauki i Techniki. 2009. № 2. S. 95–108; Idem. Przyrodnicy, kolekcjonerzy i teoretycy muzealnictwa // Kwartalnik Historii Nauki i Techniki. 2009. № 1. S. 124.
[4] Гл.: Historia nauki polskiej, t. VI / pod red. B. Suchodolskiego. Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk, 1974. S. 371; Tradycja badań przyrodniczych Podlasia z punktu widzenia poznania i ochrony środowiska naturalnego // Studia z dziejów ochrony przyrody w Polsce / pod red. J. Babicza, W. Grębockiej, Z. Wójcika. Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk; Łódź, 1985. S. 176; Kowalska K. Zoologia // Zarys dziejów nauk przyrodniczych w Polsce / pod red. K. Maślankiewicza. Warszawa, 1983. S. 342.
[5] Ładowski R. Historia naturalna królestwa Polskiego czyli… S. 94.
[6] Ibid. S. 94.
[7] Ibid. S. 94–95.
[8] Гл.: Historia nauki polskiej… S. 476–477.
[9] Гл.: Lipiński E. Historia polskiej myśli społeczno-ekonomicznej do końca XVIII wieku. Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk, 1975. S. 199.
[10] Гл.: Historia nauki polskiej… S. 643.
[11] Ładowski R. Historia naturalna królestwa Polskiego czyli… S. 95.
[12] Ibid. S. 89.
[13] Ibid. S. 6.
[14] Ibid. S. 115.
[15] Ibid. S. 115.
[16] Гл.: Kryński A. Z kart łowiectwa polskiego. Warszawa, 1991. S. 28.
[17] Гл.: Ładowski R. Historia naturalna królestwa Polskiego czyli… S. 7.
[18] Ibid. S. 8.
[19] Гл.: Łowiectwo. Larousse Encyklopedia / pod red. Paul Havet, tłum. M. i I. Szmurło. Warszawa, 1994. S. 155–161.
[20] Гл.: Ładowski R. Historia naturalna królestwa Polskiego czyli… S. 24.
[21] Гл.: Kluk K. Zwierząt domowych… t. II. Warszawa, 1779. T. 2. S. 293–294.
[22] Ładowski R. Historia naturalna królestwa Polskiego czyli… S. 52.
[23] Ibid. S. 52.
[24] Ibid. S. 12.
[25] Ibid. S. 75.
[26] Гл.: Kluk K. Zwierząt domowych… Warszawa, 1779. S. 349.
[27] Гл.: Świat zwierząt / pod red. L. Korbel, tłum. M. Cymerman. Warszawa, 1983. S. 318.
[28] Ładowski R. Historia naturalna królestwa Polskiego czyli… S. 203.
[29] Ibid. S. 14.
[30] Ibid. S. 63.
[31] Гл.: Tomanek J., Witkowska-Żuk L. Botanika leśna, wyd. VII rozszerzone i uzupełnione. Warszawa, 2008. S. 356.
[32] Гл.: Broda B. Zarys botaniki farmaceutycznej, wyd. VI pop. Warszawa, 2002. S. 276.
[33] Ładowski R. Historia naturalna królestwa Polskiego czyli… S. 2.
[34] Ibid. S. 5.
[35] Ibid. S. 116.
[36] Ibid. S. 71.
[37] Ibid. S. 6.
[38] Гл.: Bieńkowski T. Polscy przedstawiciele «scientia curiosa» // Rozprawy z Dziejów Oświaty, t. XXX. 1987. S. 5–34.

Паступіў у рэдакцыю 18.12.12.

***Пётр Бадына*** – дактарант Вроцлаўскага ўніверсітэта. Навуковы кіраўнік – прафесар Б. Рок.
***Леанід Юр'евіч Казакоў*** – выкладчык кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу.

*Г. І. МАСКЕВІЧ*

## АДУКАЦЫЯ ЯК ФАКТАР САЦЫЯЛЬНАЙ ІЕРАРХІІ СЯЛЯНСТВА БЕЛАРУСІ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

Рассматриваются некоторые аспекты получения образования крестьянством Беларуси во второй половине XIX в.: возможности крестьян обучаться в учреждениях, дающих начальное и среднее образование; причины, ограничивающие возможности обучения крестьянства; роль и место грамотных крестьян в сельской среде. Показана эволюция отношения крестьянства Беларуси к получению образования на протяжении второй половины XIX в., отличающаяся постепенным ростом популярности образования среди сельского населения. Анализируется уровень грамотности крестьянства, характеризуется качество полученного крестьянами образования, которое в большинстве случаев ограничивалось лишь начальной ступенью обучения. Исследуется

влияние образованности на социальное положение личности в сельском обществе, возможности социальной мобильности крестьянства под влиянием образования, пути получения образования крестьянством Беларуси во второй половине XIX в.

*Ключевые слова*: крестьянство; образование; уровень грамотности; социальная иерархия.

The article reviews some aspects of education peasantry in Belarus in the second half of the nineteenth century: opportunities peasantry to receive education in institutions that provide primary and secondary education, reasons for limiting the educational opportunities of the peasantry, and the role and place of the literate peasants in rural areas. Shows the evolution of the peasantry of Belarus to education in the second half of the nineteenth century which characterized by a gradual increase in popularity of education among the rural population. Analyzed literacy level of the peasantry, characterized the quality of education of the peasants, which in most cases was limited to primary level of education. Examines the impact of education on the social position of the individual in a rural community, the opportunities for social mobility of the peasantry under the influence of education and the way education Belarusian peasantry in the second half of the nineteenth century.

*Key words*: peasantry; education; literacy; social mobility.

Да адмены прыгоннага права доступ прадстаўнікоў сялянскага саслоўя да атрымання адукацыі быў абмежаваны. Пасля вызвалення сялян ад прыгону ў 1861 г. урад звярнуў увагу на стан сялянскай адукацыі. Прадстаўнікі сялянства атрымалі значна большыя магчымасці для навучання. Пачатковую адукацыю яны маглі набываць у сельскай мясцовасці ў народных вучылішчах, царкоўнапрыходскіх школах і школах пісьменнасці, а таксама ў гарадах, дзе існавалі прыхадскія павятовыя і гарадскія вучылішчы, у якіх побач з прадстаўнікамі іншых саслоўяў навучаліся і сяляне. У пачатковых школах можна было атрымаць толькі навыкі пісьма, чытання, арыфметыкі, галоўнай дысцыплінай доўгі час з'яўляўся Закон Божы. Сярэднюю адукацыю атрымлівалі ў гімназіях і прагімназіях, рэальных вучылішчах, якія размяшчаліся пераважна ў гарадах, што давала магчымасць сялянам пазнаёміцца з гарадской культурай і ладам жыцця, змяніць месца жыхарства і род заняткаў, але такая адукацыя была цяжкадаступнай для сялян з-за высокай платы за навучанне[1].

Адносіны сялян да адукацыі на працягу другой паловы XIX – пачатку XX ст. мяняліся. Гэта ў значнай ступені было звязана з тым, што ў дадзены перыяд роля адукацыі як фактару сацыяльнай іерархіі сялянства Беларусі паступова ўзрастала. У першыя парэформенныя гады сяляне часта насцярожана ставіліся да пашыраных магчымасцей атрымання адукацыі. У вёсцы працягвалі існаваць абмежаванні, што стрымлівалі распаўсюджванне сялянскай адукацыі. Адной з такіх прычын былі пашыраныя сярод сялян чуткі, што ўсіх вучняў будуць забіраць у рэкруты. Такія абставіны выклікалі недавер сялян да адкрыцця сельскіх вучылішч і навучання сваіх дзяцей. Сустракаліся выпадкі, калі мясцовае кіраўніцтва вымушана было выкарыстоўваць прымусовыя меры, каб пераканаць сялян аддаць сваіх дзяцей у школу. Падмацоўвала сялянскую насцярожанасць пэўная колькасць «маладых няўдачнікаў», якія адарваліся ад роднай гаспадаркі, але з-за недастатковай ці незакончанай адукацыі не маглі ўсталявацца ў жыцці і скардзіліся на гаротны лёс[2]. Усведамляючы станоўчыя бакі адукацыі, сяляне не заўсёды маглі прымірыцца з адрывам навучэнцаў ад зямлі і не імкнуліся аддаваць сваіх дзяцей у «навуку», таму што існавала патрэбнасць гаспадаркі ў працоўных руках.

Не спрыяла пашырэнню сялянскай адукацыі неабходнасць плаціць за навучанне. Напрыклад, навучанне дзяўчынак у радзільным інстытуце каштавала 85 руб. у год[3]. У першыя парэформенныя гады не заўсёды можна было аддаць дзяцей нават у пачатковую школу. У некаторыя з іх прымалі толькі вучняў, якія ўжо валодалі асновамі пісьменнасці і неабходнымі «пачатковымі ўменнямі»[4]. Для гэтага патрабавалася знайсці настаўніка па падрыхтоўцы да паступлення ў школу. Толькі асобныя гаспадары мелі такую магчымасць. Такія абставіны абмяжоўвалі магчымасці сялян атрымаць адукацыю. Пры адкрыцці Магілёўскага радзільнага інстытута ўрад прыклаў шмат намаганняў, каб заахвоціць сялян да навучання сваіх дачок. Намаганні былі не вельмі паспяховымі – з усёй Віцебскай губерні згоду далі толькі 7 сялян[5]. Сяляне лічылі навучанне «не бабскай справай». Як адзначалі чыноўнікі, навучацца сваіх дзяцей адпраўлялі пераважна сяляне, якія «пабывалі за межамі губерні і пабачылі свет»[6]. Гэта звычайна былі добразабяспечаныя гаспадары. Існавала прамая залежнасць колькасці адукаваных мужчын у сям'і ад колькасці зямлі ў сялянскай гаспадарцы: у больш заможных гаспадарках было болей адукаваных асоб. Так, у пачатку XX ст. у беспасяўных гаспадарках налічвалася 29,8 % пісьменных мужчын, у той час як у заможных – 55,7 %[7]. Магчымасці атрымання адукацыі залежалі ад маёмаснага стану сялянскай сям'і.

Пашырэнне сялянскай пачатковай адукацыі назіралася з 1880-х гг. З гэтага часу актыўна расла сетка царкоўнапрыходскіх школ. Асаблівая ўвага ў такіх школах надавалася рэлігійнаму выхаванню і авалоданню пачатковымі ведамі пісьма і чытання. Хаця навучанне ў іх абмяжоўвалася атрыманнем мінімальных ведаў, у многіх мясцовасцях царкоўнапрыходскія школы былі важным фактарам пашырэння пісьменнасці сялянства, бо мелі дзяржаўную падтрымку. Так, папячыцель Віленскай навучальнай акругі Н. Сергіеўскі ў 1880-я гг. патрабаваў аддаваць перавагу царкоўнапрыходскім школам перад народнымі вучылішчамі[8]. Разам з тым колькасць сельскіх пачатковых школ і навучэнцаў у іх таксама расла, аднак і там навучанне не выходзіла за рамкі авалодання мінімальнымі ведамі. Даныя табл. 1 ілюструюць гэты прырост. У 1894 г. у параўнанні з 1866 г. колькасць пачатковых сельскіх школ павялічылася ў 5,6 разы. Значнымі тэмпамі расла і колькасць навучэнцаў у іх, якая за 1860–1890-я гг. павялічылася ў 7,3 разы.

Табліца 1

**Рост колькасці сельскіх пачатковых школ і вучняў у іх у 1860–1890-я гг.**[9]

| 1866–1868 гг. | 1880 г. | Прырост з 1868 па 1880 г., % | 1894 г. | Прырост з 1880 па 1894 г., % | Прырост з 1868 па 1894 г., % |
|---|---|---|---|---|---|
| Сельскія пачатковыя школы | | | | | |
| 1087 | 1514 | 39,3 | 6128 | 424,5 | 463,8 |
| Вучні сельскіх пачатковых школ | | | | | |
| 25 044 | 64 413 | 157,2 | 182 264 | 470,6 | 627,8 |

Заўвага. У табл. 1 паказаны «асобы сельскага стану».

З канца 1880-х гг. паскорыліся тэмпы росту колькасці пачатковых народных вучылішч. У Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губернях з 1861 па 1880 г. колькасць іх павялічылася з 56 да 705[10], а ў 1889 г. толькі ў адной Мінскай губерні склала 1249[11]. Агульная колькасць пісьменных сялян у канцы XIX ст. у Віленскай і Гродзенскай губернях складала ўжо больш за 25 % сялянства, у Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губернях – каля 15 %[12].

Важным прадстаўлялася пытанне якасці сялянскай адукацыі. На думку С. Снапкоўскай, менавіта ў беларускіх губернях вельмі вялікая колькасць вучняў не заканчвалі нават пачатковую адукацыю, што было звязана з недахопам вопраткі і абутку, неабходнасцю працы ў гаспадарцы, аддаленасцю школ ад месца жыхарства вучняў, з частымі эпідэміямі і хваробамі з-за антысанітарных умоў навучання[13]. М. Улашчык казаў аб прымітыўным узроўні адукацыі ў другой палове XIX ст., калі пісьменным лічыўся любы, хто мог прачытаць друкаваны тэкст, а само навучанне зводзілася да механічнага завучвання інфармацыі, а не разумення сэнсу прадметаў[14]. Адукацыя сялянства часта складалася з таго, што збіралі дзяцей у адной хаце, раздавалі па буквары і загадвалі пісару ці царкоўнаму служку навучаць іх пісьменнасці, называючы гэта «адкрыццём вучылішч»; арыфметыцы дзеці навучаліся далёка не ў кожнай школе, а навучанне абмяжоўвалася механічным напісаннем лічбаў; навучанню чыстапісанню перашкаджаў недахоп сталоў і лавак, акрамя таго, многія настаўнікі баяліся пакарання за сапсаванне падручнікаў і кніг, набытых за дзяржаўны кошт, таму трымалі іх «пад замком»[15].

Сярэдняя адукацыя з'яўлялася больш грунтоўнай, аднак магчымасці яе атрымаць у сялян былі невысокія. Прычыны зноў заключаліся ў фінансавай незабяспечанасці сялянства, а таксама ў размяшчэнні большасці сярэдніх навучальных устаноў у гарадах, што патрабавала адрыву селяніна ад гаспадаркі на доўгі тэрмін. Імкнучыся падтрымаць пашырэнне сялянскай адукацыі, урад аказваў падтрымку студэнтам сярэдніх навучальных устаноў. У першую чаргу гэта выражалася ў атрыманні навучэнцамі губернатарскіх стыпендый, якія выдаваліся або па асабістай ініцыятыве вышэйшых улад, або па просьбе саміх сялян, якія без падобнай грашовай дапамогі вымушаны былі пакідаць навучанне датэрмінова[16]. Сярод вучняў існавала нават асаблівая іерархія, заснаваная на форме іх фінансавага забеспячэння, – стыпендыяты, казённыя навучэнцы і пансіянеры, якія мелі асаблівыя сродкі ўтрымання. На стыпендыятаў Мар'інагорскай сельскагаспадарчай школы дзяржавай выдаткоўвалася 80–100 руб., на казённых вучняў – 120 руб., а пансіянеры самі плацілі школе па 60 руб. у год[17]. У жаночых гімназіях Віленскай і Гродзенскай губерняў вучаніцы атрымлівалі ад 18,5 да 20 руб. штогадова[18]. Гэтыя сумы павінны былі забяспечыць харчаванне, вопратку і абутак, але дапамога не заўсёды была дастатковай. Сяляне скардзіліся на кіраўніцтва навучальных устаноў, якое часта няправільна размяркоўвала выдаткаваныя навучэнцам грошы. Асаблівую катэгорыю вучняў складалі вольнапрыходзячыя навучэнцы, якія не плацілі за адукацыю і ніякай дапамогі не атрымлівалі, забяспечваючы ўвесь працэс навучання за ўласны кошт. Аднак пашырэнне сярэдняй адукацыі сярод сялян адбывалася невысокімі тэмпамі. Даныя табл. 2 паказваюць, што ў канцы XIX ст. колькасць адукаваных і пісьменных сялян складала амаль 17 %, з якіх толькі 0,42 % мелі адукацыю вышэй за пачатковую.

Табліца 2

**Узровень адукацыі сялян Беларусі, 1897 г.**[19]

| Губерня | Непісьменныя сяляне, чал. | Пісьменныя сяляне, чал. / % | У тым ліку навучаліся | | Колькасць пісьменных сялян з адукацыяй вышэй за пачатковую, % |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | у ВНУ, чал. | у сярэдніх навучальных установах, чал. | |
| Магілёўская | 1 202 306 | 149 236 / 11,04 | 2 | 761 | 0,51 |
| Мінская | 1 385 928 | 155 193 / 10,1 | 4 | 1083 | 0,70 |
| Віленская | 916 304 | 281 077 / 23,5 | 11 | 1022 | 0,37 |
| Гродзенская | 894 537 | 267 901 / 23 | 9 | 989 | 0,37 |
| Віцебская | 938 727 | 225 749 / 19,4 | 11 | 669 | 0,30 |
| Усяго | 5 337 802 | 1 079 156 / 16,8 | 37 | 4513 | 0,43 |

Адначасова расла доля сялян сярод усіх студэнтаў сярэдніх навучальных устаноў. У 1875 г. сяляне сярод іх складалі каля 3,7 % (92 селяніна)[20]. Да канца XIX ст. гэта лічба ўзрасла амаль

у 10 разоў і ў пачатку XX ст. складала ўжо каля 30 % (15 951 выхадзец з сялян)[21]. Атрымлівалі сяляне Беларусі і вышэйшую адукацыю, але такія прыклады былі адзінкавыя. У 1897 г. у ВНУ навучалася толькі 28 сялян.

Фактарамі, што стрымлівалі пашырэнне адукацыі ў першыя парэформенныя гады, былі грамадская думка і асаблівасці сялянскага менталітэту. Традыцыйная сялянская сістэма каштоўнасцей прыводзіла часам да таго, што асобы, якія атрымлівалі адукацыю, былі выключаны з кола грамадскай павагі, асабліва калі навучаліся ў горадзе і прыязджалі ў вёску нячаста. Іх менталітэт пад уплывам гарадской культуры і навучання побач з прадстаўнікамі вышэйшых саслоўяў значна мяняўся. Аднак колькасць «гарадскіх» вучняў сярод сялян не была вялікай. У Віцебскай губерні ў канцы 1880-х гг. у горадзе навучалася 332 хлопчыкі і 37 дзяўчынак з сялян, якія складалі адпаведна 8,3 і 1,9 % усіх гарадскіх навучэнцаў[22], ці каля 3 % усіх сялян, што атрымлівалі адукацыю. Стаўленне да такіх асоб магло мяняцца з цягам часу, калі рабілася відавочнай іх перавага перад іншымі аднавяскоўцамі ў магчымасцях атрымання пасад, добрых грашовых заробкаў. Таму ўзровень і стан адукацыі ўсё часцей атаясамліваўся ў сялян з магчымасцямі сацыяльнай мабільнасці.

Існавала некалькі шляхоў павышэння сацыяльнага статусу селяніна праз атрыманне адукацыі. Адзін з іх – магчымасць быць прызначаным на службовую пасаду ў сістэме сялянскага самакіравання. У першую чаргу – на пасаду валаснога або сельскага пісара, служба на якой патрабавала абавязковага ведання граматы. Асобы, што займалі падобныя пасады, карысталіся асаблівай павагай і аўтарытэтам сярод сялян, мелі шэраг прывілеяў у параўнанні з іншымі аднавяскоўцамі. Акрамя таго, службовыя асобы атрымлівалі грашовы заробак, а нярэдка і неафіцыйныя грашовыя або натуральныя «падараванні» ад сялян, што павышала іх матэрыяльны дабрабыт. Невялікая частка адукаваных сялян паступала на службу ў іншыя дзяржаўныя ўстановы, што знаходзіліся ў горадзе. Гэта патрабавала адрыву ад зямлі і сельскай гаспадаркі, а таксама азначала выключэнне на пэўны тэрмін з сялянскага саслоўя. Служачым забяспечваліся кватэры, грашовае ўтрыманне, што дазваляла весці самастойны лад жыцця. Звычайна на перыяд службы такія асобы выключаліся са сваёй саслоўнай катэгорыі, як і пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Гэта былі службы ў справаводстве, тэлеграфным ведамстве (пераважна паштальёнамі), на чыгунках і інш.[23] Часам сялянам удавалася дамагчыся больш значных пасад у дзяржаўных установах. Так, селянін Кобрынскага павета А. Маліеўскі служыў ва Упраўленні земляробства і дзяржаўнай маёмасці пры пісьмовых занятках па вольным найме, а пазней быў пераведзены ў штатныя канцылярскія служачыя; селянін таго ж павета В. Іваноўскі служыў у штаце Кобрынскага паліцэйскага ўпраўлення[24]. Праўда, па заканчэнні службовага тэрміну трэба было зноў запісвацца ў пэўнае саслоўе, але сацыяльнае становішча такіх асоб мянялася. Нават пры складанні афіцыйнай справаводчай дакументацыі яны адзначаліся як «былы» ці «адстаўны паштальён, пісар» і г. д., што сведчыла аб выдзяленні іх у асобную сацыяльную групу. Акрамя таго, што для селяніна само паступленне на падобную службу ўжо азначала ўзвышэнне ў сацыяльнай іерархіі, яно давала магчымасць атрымання ганаровага грамадзянства, садзейнічала прыпісцы ў вышэйшае саслоўе. Атрымлівалі такія прывілеі ў большасці выпадкаў менавіта адукаваныя сяляне.

Яшчэ адна магчымасць сацыяльнай мабільнасці для сялян, якую мелі выключна адукаваныя асобы, заключалася ў настаўніцтве. Сярод настаўнікаў пачатковай сельскай школы выхадцы з сялян у 1880 г. складалі 51,5 % сярод мужчын і 1,2 % сярод жанчын[25]. Настаўнікі, як і службовыя асобы, атрымлівалі штомесячны грашовы заробак. Існавала нефармальная традыцыя «пачастункаў» і «дароў» настаўнікам ад сялян, дзеці якіх навучаліся ў школе. Сацыяльны статус настаўнікаў сярод сялянства не быў аднолькавы. Гэта залежала ад паходжання, асабістых паводзін, узаемаадносін з сялянамі. Зыходзячы з маёмаснага цэнзу, які існаваў для навучання, правамерным з’яўляўся факт, што большасць вясковых настаўнікаў паходзілі з заможных сямействаў[26], аднак былі і выхадцы з беднаты. В. М. Астрога выдзяляе нават некалькі катэгорый вясковага настаўніцтва ў залежнасці ад узаемаадносін з сялянамі. Так, былі настаўнікі, якія ў школах лічылі сябе «панамі і барынямі», з’яўляліся «культурнымі адзіночкамі», імкнуліся мець стасункі выключна з прадстаўнікамі вышэйшых станаў грамадства. Другія далучаліся да сярэдняга класа – святары, старасты, старшыны, – але ставілі сябе вышэй за іншых аднавяскоўцаў. Трэцюю групу складалі тыя, хто выйшаў з вясковага асяроддзя і не жадаў з ім парываць. Іх светапогляд і лад жыцця не адрозніваўся ад аднавяскоўцаў, хаця ўзровень адукацыі быў больш высокі[27]. Відавочна, што апошняя група ўключала ў сябе выхадцаў з найбяднейшых катэгорый сялянства, а вось у першых дзвюх маглі знаходзіцца прадстаўнікі бедных і заможных сем’яў. Рознае самавызначэнне настаўнікаў уплывала на фарміраванне іх нефармальнага сацыяльнага статусу.

Выключная роля адукацыі праяўлялася ў атрыманні сялянамі звання ганаровага грамадзяніна. Падобны прывілеяваны статус у Беларусі з’явіўся ў канцы XVIII ст., надаваўся пераважна дваранам, радзей – мяшчанам і толькі з 1892 г. – сялянам. Атрымаць званне ганаровага грамадзяніна селяніну было няпроста. Яно магло надавацца служачым асобам, настаўнікам, што падкрэслівала ролю адукацыі ў атрыманні звання. Ганаровае грамадзянства сяляне атрымлівалі звычайна праз хадайніцтва вышэйшых асоб. Канчатковае рашэнне прымалася міністрам унутраных спраў. Нярэдкімі былі адказы на па-

добныя запыты, нягледзячы на парукі высокіх асоб. Так, за селяніна Вілейскага павета Кірыла Курыля прасіў прадвадзіцель дваранства, якога падтрымалі губернатар і генерал-губернатар. Аднак І. Дурнаво, міністр унутраных спраў, не даў згоды, бо селянін карыстаўся правамі канцылярскіх служачых трэцяга разраду, а для такіх асоб званне ганаровага грамадзяніна не было ўстаноўлена[28]. Існавалі выключныя выпадкі надання спадчыннага ганаровага грамадзянства сялянам, што давала магчымасць набыць дваранства. Такое званне атрымаў селянін Георгі Малокін за «заслугі перад царквой»[29]. Ён за 20 гадоў распісаў каля 200 цэркваў і касцёлаў. Такім чынам, адукаванасць выступала важным чыннікам росту сацыяльнага статусу селяніна.

У другой палове XIX – пачатку XX ст. назіралася станоўчая дынаміка ў распаўсюджванні адукацыі сярод сялянства, адначасова раслі і магчымасці сацыяльнай мабільнасці. Усведамленне сялянамі неабходнасці і станоўчых бакоў атрымання адукацыі, а таксама ўрадавая палітыка, накіраваная на пашырэнне сялянскай адукацыі, забяспечылі паступовы рост колькасці пісьменных сялян. Колькасць пачатковых сельскіх школ з 1856 па 1894 г. узрасла ў 12 разоў, а колькасць навучэнцаў у іх – у 10 разоў[30]. Асабліва хуткімі тэмпамі гэты працэс адбываўся ў 1980–1990-я гг. Назіралася павышэнне якасці сялянскай адукацыі, хаця і больш маруднымі тэмпамі. Становішча адукаваных асоб у вёсцы не было ўніфікавана, у кожным выпадку вызначалася асобна, на што ўплывалі розныя фактары. Для трансфармацыі светапогляду, маральных і культурных каштоўнасцей, перабудовы і мадэрнізацыі ўсталяваных традыцый сялянства патрабаваўся пэўны тэрмін. Сяляне ў першыя парэформенныя гады часта яшчэ насцярожана ставіліся да наватарскіх тэндэнцый, не разумелі жыцця па-за межамі сельскай гаспадаркі і вясковых традыцый. З цягам часу рабіліся відавочнымі станоўчыя наступствы адукацыі. Яна давала больш шырокія магчымасці для атрымання службовых пасад, ганаровага грамадзянства і пераходу ў іншае саслоўе, паляпшэння матэрыяльнага становішча, забяспечвала шэраг ільгот, мяняла нефармальнае становішча асобы ў грамадзе.

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС


[1] Гл.: Снапкоўская С. В. Ля вытокаў нацыянальнай педагогікі: з гісторыі школы і педагагічнай думкі Беларусі канца XIX – пачатку XX ст. Мінск, 1995. С. 15.
[2] Гл.: Горбачевский И. Д. Лепельский уезд Витебской губернии. Витебск, 1895. С. 21.
[3] Гл.: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Ф. 2642. Воп. 1. Спр. 277. Л. 13.
[4] Гл.: НГАБ. Ф. 1416. Воп. 6. Спр. 705. Л. 302–303.
[5] Гл.: НГАБ. Ф. 2642. Воп. 1. Спр. 277. Л. 13.
[6] Витебская губерния. Историко-географический и статистический обзор / под ред. В. М. Долгорукова. Витебск, 1890. Вып. 1: История. Природа. Население. Просвещение. С. 380.
[7] Гл.: Довнар-Запольский М. В. Народное хозяйство Белоруссии. 1861–1914 гг. Минск, 1926. С. 143.
[8] Гл.: Снапкоўская С. В. Адукацыйная палітыка і школа на Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX стст. Мінск, 1998. С. 15.
[9] Гл.: Однодневная перепись начальных школ в империи, произведенная 18 января 1911 г. / ред. В. И. Покровский. СПб., 1914. Вып. 8 (10): Виленский учебный округ. Губернии: Виленская, Витебская, Гродненская, Ковенская, Минская и Могилевская. С. II–III.
[10] Гл.: Россия. Полное географическое описание нашего отечества / под ред. В. П. Семенова. СПб., 1905. Т. 9: Верхнее Поднепровье и Белоруссия. С. 122.
[11] Гл.: Календарь «Северо-Западного края» на 1889 год / ред. М. Запольский. М., 1889. С. 64.
[12] Гл.: Каханоўскі А. Г. Узровень пісьменнасці жыхароў Беларусі на мяжы XIX–XX ст. // Весн. БДУ. Сер. 3. 2006. № 1. С. 8.
[13] Гл.: Снапкоўская С. В. Адукацыйная палітыка і школа на Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX стст. Мінск, 1998. С. 13.
[14] Гл.: Улащик Н. Н. Грамотность в дореволюционной Белоруссии // История СССР. 1968. № 1. С. 112.
[15] Гл.: Витебская губерния. Историко-географический и статистический обзор... С. 366–368.
[16] Гл.: НГАБ. Ф. 2001. Воп. 1. Спр. 1754. Л. 133, 183.
[17] Гл.: НГАБ. Ф. 378. Воп. 1892. Спр. 405. Л. 33.
[18] Гл.: НГАБ. Ф. 378. Воп. 1883. Спр. 231. Л. 3–13.
[19] Гл.: Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. / под ред. Н. Тройницкого. СПб., 1900. Вып. 4. Тетр. 1: Виленская губерния. С. 35; 1899. Вып. 5. Тетр. 1: Витебская губерния. С. 30; 1903. Вып. 11: Гродненская губерния. С. 61; 1904. Вып. 22: Минская губерния. С. 54; 1905. Вып. 23: Могилевская губерния. С. 55.
[20] Гл.: Гісторыя Беларусі: у 6 т. Мінск, 2000–2005. Т. 4: Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.) / М. Біч і інш. 2005. С. 278.
[21] Гл.: Однодневная перепись начальных школ в империи, произведенная 18 января 1911 г. ... С. 106–107.
[22] Гл.: Витебская губерния. Историко-географический и статистический обзор... С. 352.
[23] Гл.: НГАБ. Ф. 330. Воп. 1. Спр. 739; Ф. 654. Воп. 1. Спр. 18. Л. 6, 65.
[24] Гл.: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 87. Воп. 2. Спр. 1724; Спр. 1725. Л. 7.
[25] Гл.: Однодневная перепись начальных школ в империи, произведенная 18 января 1911 г. ... С. 15.
[26] Гл.: Астрога В. М. Вясковае настаўніцтва Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX стст.: дыс. … канд. гіст. навук. Мінск, 2005. С. 79.
[27] Там жа. С. 52.
[28] Гл.: Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы (ДГАЛ). Ф. 378. Воп. 1892. Спр. 87.
[29] Гл.: ДГАЛ. Ф. 378. Воп. 1898. Спр. 226.
[30] Гл.: Улащик Н. Н. Грамотность в дореволюционной Белоруссии // История СССР. 1968. № 1. С. 115.


Паступіў у рэдакцыю 01.11.12.

***Ганна Іванаўна Маскевіч*** – кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу.